# ПАГНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

*24 верасьня — 7 кастрычніка*

*Кошт 10 рублёў*






## Віва эспэранта!

„Сёньня, 24 верасьня, у Горадні а 15-й гадзіне ў Палацы культуры тэкстыльшчыкаў урачыста адкрыецца Міжнародная канфэрэнцыя эспэрантыстаў. На яе запрошаны прэзідэнт Міжнароднага таварыства дружбы і добрай волі сп. Стэнлі Дрэйк з ЗША і ўнук стваральніка Міжнароднай мовы Эспэранта сп. Лоіс Залескі-Замэнгоф з Францыі.

У рамках падзеі адбудзецца круглы стол, прысьвечаны гісторыі эспэранцкага руху на Беларусі, прэс-канфэрэнцыя, выстава і нават набажэнства на мове Эспэранта ў Фарным касьцёле.

У сёньняшнім нумары «Пагоні» друкуюцца матэрыялы, прысьвечаныя канфэрэнцыі эспэрантыстаў.

**Р. М.**

## У падтрымку вайскоўцаў

У мінулыя выхадныя грамадзка-палітычнае аб´яднаньне імя К. Каліноўскага зьбірала подпісы на Савецкім пляцы ў Горадні ў падтрымку звольненых за патрыятычнўю дзейнасьць у беларускім войску сяброў БЗВ. Трэба адзначыць, што гарадзенцы выяўлялі цікаўнасьць да лёсу звольненых афіцэраў і з задавальненьнем ставілі свае подпісы ў іх падтрымку. Як лічыць лідэр спадарыня Селязьнёва, гэта толькі пачатак, акцыя ў падтрымку патрыётаў за беларушчыну ў нашым войску будзе працягвацца.

За два дні каліноўцы сабралі тоўстую папку подпісаў. Не абыйшлося й без непаразуменьняў. Падыйшоўшы да групы жаўнераў, на рукавах якіх красаваўся надпіс «Батальён спэцыяльнага прызначэньня», каліноўцы папрасілі іх паставіць і свае подпісы. Сяржант, які, відаць, быў старэйшым у групе, адмовіўся, адказаўшы: «У мяне хворыя рукі».

**Г. А.**

## БНФ і СПБ: трэба быць разам

У Горадні адбылася сустрэча прадстаўнікоў Гарадзенскай рады БНФ «Адраджэньне» й кіраўніцтва Саюза палякаў на Беларусі. Размова вялася ў рэчышчы тых падзей, якія зараз адбываюцца на Беларусі. Як адным, так і другім бокам была выказана занепакоенасьць тым, што пракамуністычныя сілы на Беларусі значна актывізавалі свае дзеяньні, апошнія эканамічныя й палітычныя пагадненьні з Расеяй пагражаюць беларускай дзяржаўнасьці. Вынікі выбараў у Польшчы таксама могуць узмацніць пазіцыі камуністаў у Беларусі.

Адзначалася, што калі будзе працягвацца наступ на ...адраджэньне Беларусі, гэта адчуюць і ...цовыя палякі. Таму абодва бакі прыйшлі да высновы, што, нягледзячы на складанасьць сітуацыі, сваю далейшую дзейнасьць неабходна каардынаваць разам на карысьць Беларусі.

**М. К.**

## Клюба авіятараў ня будзе

Як стала вядома газэце «Пагоня», камэрсанту Г. С., які набыў для ажыцьцяўленьня гэтай мэты спартыўны самалёт, давялося адмовіцца ад гэтага. Днямі самалёт быў адпраўлены ранейшаму гаспадару.

На жаль, разьвітацца з задумай гарадзенскаму камэрсанту давялося з-за неадпаведнасьці нашага заканадаўства, згодна якому самалёт нельга зарэгістраваць, як набытак ці як дарунак.

**Г. А.**

## Ура! У атаку!

У Горадні створана філія г. зв. афіцэрскага саюзу. Апроч лічаных пашпартных беларусаў гэтая арганізацыя гуртуе афіцэраў-расейцаў. І хоць яны заяўлялі аб тым, што кіруюцца ў сваёй дзейнасьці беларускай канстытуцыяй і не займаюцца палітыкай, аднак зьезд гэтай арганізацыі, які адбыўся ў выхадныя ў Менску, сьведчыць зусім пра іншае. Сход сабраў «крумкачоў» з усіх былых абшараў і ператварыўся ва «усесаюзны». Прысутныя рашуча запатрабавалі скінуць Шушкевіча й аднавіць СССР. Якое яны мелі права на гэта? Аніякага!

Ура нашаму роднаму ўраду! Ён рашуча змагаецца супраць патрыятычнага вайсковага руху й адкрыта спрыяе нашым непрыхільнікам. Не зусім гуманна, але слушна чыняць з былымі вайскоўцамі акупацыйнага войска ў Балтыйскіх краінах. Наш вопыт сьведчыць, што калі ім даць аднолькавыя з намі правы, яны сядуць нам на шыю, каб пазбавіць нас усякіх правоў, і пачнуць дыктаваць свае ўмовы. Іншай мовы яны ня ведаюць.

«Беларускі» афіцэрскі зьезд скупіў дэпутатаў расейскага (!) парлямэнту, а кіраваў працай афіцэр расейскага войска.

**В. ІВАНОЎ.**

## Забойства Д. Арцымені

20 верасьня ў 21.40 ...ля свайго дома ў Горадні на вул. Астроўскага, 12, стрэлам з пісталета быў забіты старшыня аблвыканкаму Д. Арцыменя. Дзёрскае забойства здзейснена ў «лепшых» традыцыях «Coza Nostra».

Горад поўніцца чуткамі па самыя берагі. Пацьвердзіць або абвергнцуь іх пакуль немагчыма і ці будзе магчыма наогул... Пра злачынства гавораць у крамах, габінэтах, у тралейбусах, на кухнях. Гісторыя вымалёўваецца надзвычай дэтэктыўная з белым (?) або чырвоным (?) БМВ альбо «Мэрсэдэсам». Аднак трэба прызнаць, што сёньня зразумела толькі тое, што справа гэтая вельмі і вельмі цёмная.

Забіты быў народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь і членам парлямэнцкай фракцыі «Беларусь». Пахаваньне мела адбыцца ўчора, 23 верасьня, на агульнагарадзкіх могілках.

**В. Б.**

# Верасьнёўскія рэфлексіі

**4-га верасьня ва Ўгоршчыне перахавалі астанкі адмірала Хорці, забраныя з Партугаліі. Пад Познаньню адбылося перазахаваньне перавезеных са Швэйцарыі астанкаў прэзідэнта І. Масьціцкага. Нарэшце 17-га верасьня ў Кракаве быў зьмешчаны ў крыпце сьв. Леанарда прах гэн. Ул. Сікорскага.**

Гэтую дату абраў прэзідэнт Л. Валэнса. Яшчэ адной сімвалічнай падзеяй меў быць пазначаны гэты дзень 17 верасьня — вывадам апошняга расейскага жаўнера. Заспаныя рускія з кіслымі тварамі выехалі, праўда, толькі назаўтра ў 4.30 раніцы, без энтузіязму памахаўшы рукамі на разьвітаньне супрацоўнікам расейскага пасольства ў Варшаве. Цягнік вырушыў з Цэнтральнага чыгуначнага вакзалу ў бок Беларусі па рэйках, якія на 79 мілімэтраў вузейшыя за «нашы», савецкія. Карацей кажучы, гісторыя з сімвалічнай датай крыху «змазалася».

Столькі часу палякі чакалі гэтай падзеі, але амаль яе не заўважылі. Па-першае, у падобных выпадках заўжды важнейшым аказваецца працэс, а ня вынік. А па-другое, вялізным быў напал, ва ўсякім разе ў сродках інфармацыі, напярэдадні парлямэнцкіх выбараў 19 верасьня. Выбары адбыліся, перамог Саюз дэмакратычнай лявіцы, былыя камуністы. Але ня радуйцеся, нашы мясцовыя капэсэсаўцы! Польскім левым нават у пачварным сьне ня прыйдзе да галавы зноў адарваць ад белага арла карону, растаптаць яго, падзерці белчырвоны сьцяг, а Польшчу далучыць да Расеі... Каб дасягнуць гэткай вышэйшай ступені дэградацыі, трэба мець напраўду фэнамэнальныя разумовыя здольнасьці.

17-га верасьня доўга-доўга было табу ў савецка-польскіх адносінах, Катынь — да апошніх дзён СССР. Горбі, як уюн на патэльні, круціўся, абы толькі не прызнаць відавочнага. Гэтая дата будзе яшчэ служыць бар´ерам у польска-беларускіх адносінах. Недагаворкамі справу ня вырашыць. Тады я скажу. Сябры-палякі! Вы дагэтуль абражаны. Вас абражае назва вуліцы 17-га верасьня. Але ня трэба быць эгаістамі. Годзе! Вы лічыце, што стан рэчаў павінны быць вернуты да 17-га верасьня 1939 года. У сваіх адвечных спрэчках з расейцамі вы забыліся пра нас. Варшаву з Масквой падзяляюць ня 100 або 200 кілямэтраў. Няма такіх мясьцін, дзе б суседзілі расейскія вёскі з польскімі. Вы, палякі, падзялілі ў 20-м годзе з расейцамі Беларусь надвая, не спытаўшы ў нас. Мы што — мурыны, якія ня маюць правоў і годнасьці?

Я не наіўны й разумею, што Аўстрыя ўжо таму павінна была быць анэксавана, што фюрар ня быў немцам, а — аўстрыякам. Грузія таксама абавязкова апынулася ў СССР. А Віленшчына, радзіма «дзеда Язэпа»,— у Польшчы. Размаўлялі паміж сабой моцныя. Кволых ня слухалі. Але моцны — ячшэ ня значыць справядлівы.

Не беларускае войска ўступіла 17-га верасьня на тэрыторыю Заходняй Беларусі. Польшча аказалася кволай і спазнала тое, што спазнала Беларусь у дзень Рыжскага замірэньня. Нам вас шкада. А вось вы нас не шкадавалі. Ні тады, ні, выходзіць, цяпер. Вас правучылі Гітлер са Сталіным. Потым Гітлер—Сталіна. Затым Сталін — Гітлера. Маральна асудзіць 17-е? Але ж II Сусьветная вайна пачалася раней — 1-га верасьня. Усе народы зазналі тады трагедыю. Беларускаму, які амаль зрусіфікаваны, сёньня яшчэ горш. Аднак яго трагедыя была б глыбейшай, калі б ён застаўся распалавіненым. Беларусы ў Польшчы маюць сёньня «Ніву», але ня маюць школы, як ня мелі яе й тут. Не выдатна жылі, але затое хоць разам.

А цяпер пра Армію Краёву. Мы ведаем, што ў заходнебеларускіх вёсках хлопцы выбіралі куды ісьці: у савецкія партызаны або ў АК. І шмат хто выбіраў апошнюю. Бо яны жылі да вайны ў Польшчы і яны йшлі яе бараніць. Як сумленна баранілі яе на польска-нямецкім фроньце ў 39-м. Беларусы былі добрымі жаўнерамі Войска Польскага. Але яны ня горш баранілі б і Беларускую Народную Рэспубліку... Так, з хлопцамі ўсё зразумела. Тады ўзьнімемся вышэй. Армія Краёва змагалася за польскую дзяржаўнасьць у Заходняй Беларусі. А тут ужо ёсьць пытаньні.

Як паведаміла газэта «Glos znad Niemna», прэм´ер Летувы сп. Шляжавічус з падачы міністра юстыцыі паклікаў камісію, каб ацаніць дзейнасьць АК на Віленшчыне. Як вядома, міністэрства пакуль адмовіла ў рэгістрацыі клюба вэтэранаў АК, што падтрымала соймавая камісія асьветы, навукі і культуры. Так, мы ведаем, што акоўцы ваявалі з летувіскімі паднямецкімі карнымі батальёнамі. Ну і што? Летувісы расстаўляюць акцэнты адназначна: АК імкнулася зноў адарваць Віленшчыну ад Летувы. Карацей, справа гэтая дзяржаўная, вырашаецца на міждзяржаўным узроўні.

У нас ўсё інакш, чым у летувісаў. У гэтыя выхадныя ў Горадні спакойна адбудзецца І зьезд польскіх вэтэранаў Другой Сусьветнай вайны й жаўнераў Арміі Краёвай. Дзяржава ніяк не выказвае сваіх адносінаў да падзеі. Улады вельмі ж заняты змаганьнем з беларускімі патрыятычнымі, у тым ліку і вайсковымі, арганізацыямі, з сувэрэнітэтам, дзяржаўнымі сымболямі. Я ў цэлым амаль ня супраць АК, але падобныя справы трэба вырашаць гэтак, як у Летуве, па-дзяржаўнаму.

Але дзе яна, тая дзяржава? У Нямеччыне не было гэбэльсаўскага тэлебачаньня, яго стварылі ў Менску. Націсьнеш гузік у тэлевізары, дык адразу на язык пнецца «великий и могучий». Нейкі сталічны Юдушка пераконвае мяне з экрана, які ж гэта добры кангрэс тамака адбыўся. Сабраліся ўсякія афіцэрскія саюзы ды «саборы». Расейцы з савецкага войска ды расейскае партыйна-савецкае чынавенства на пэнсіі, якіх паслалі, каб цалкам зрусіфікаваць гэтую няшчасную Беларусь. Карацей, акупанты з мясцовымі калябарантамі ў хаўрусе. «I mam, prosza pana, w to uwierzyc, że est to naród białoruski?! Bzdury!»

Камэнтатар зьнікае з экрану. Выплываюць будзёнаўцы ў будзёнаўках, і «эмігранцкі» сьпявак Еўдакімаў, які пакрыўдзіўся на ўласную непапулярнасьць і зьехаў у Маскву, пачынае па-расейску выконваць патрыятычныя савецкія песьні.

І я маю даць веры, што сёньня верасень 1993-га году?

**М. ПЯТРОВІЧ.**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Грамадзяне Летувы й Беларусі!

Мы памятаем, з якой радасьцю сьвет сустрэў крушэньне сумнавядомай «Бэрлінскай сьцяны», мы памятаем, як віталі доўгачаканую незалежнасьць нашых дзяржаў. Хто б мог тады падумаць, стоячы на «Балтыцкім шляху» ці баронячы ў трагічныя дні й ночы студзеня 91-га Віленскую тэлевежу ды будынак парлямэнту Летувы, што міне ня так шмат часу і зноў будуць узводзіцца новыя «заслоны» й сьцены.

«Літва! Мая Айчына!» — усклікаў Адам Міцкевіч, маючы перад «вачамі душы маёй» муры Наваградка, хвалі Сьвіцязі, Абраз Маці Божай Вострабрамскай. Для яго, як і для нас, гэта было адно цэлае, адна спрадвечная Радзіма.

З 1 лістапада 1993 года мае быць інакш. Паміж Летувіскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь уводзіцца жорсткі візавы рэжым. Для перасячэньня мяжы трэба будзе плаціць вялікую для простага чалавека суму ў далярах, атрымліваць спэцыяльны дазвол альбо запрашэньне — горш, чым для паездкі за межы СССР у бальшавіцкія часы.

Такога яшчэ не было ў гісторыі ўзаемаадносін нашых народаў. Паміж намі ня здолелі ўзвесьці сьцены ні крыжакі, ні маскоўскія цары і тыраны, ні гітлераўскія акупанты, нас ня здолелі разлучыць і пасварыць ні тэўтонскі меч, ні петлі Мураўёва-вешальніка, ні сталінскі Гулаг. Кроў Грунвальда і касінераў Касьцюшкі ды Каліноўскага, кроў ахвяраў Чэрвеня, Катыні ды Курапатаў толькі мацней зьнітоўвала наша братэрства.

Сёньня тое, што не ўдалося зьдзейсьніць іншаземным акупантам, бярэцца зрабіць кучка чыноўнікаў з урадаў Летувы й Беларусі. Беларусы й палякі Летувы будуць адарваны ад сваіх суайчыньнікаў з Беларусі, для летувісаў з Дзукіі суседняя Горадня стане далёкім замежжам. Маці Божая Вострабрамская будзе аддзелена ад землякоў Міцкевіча калючым дротам, для школьнікаў Летувы недаступнымі стануць замкі Наваградка, Ліды й Нясьвіжа, пра якія яны чытаюць у падручніках гісторыі, беларускія школьнікі ня здолеюць убачыць славутую Літоўскую пагоню, пра якую пісаў Максім Багдановіч. Летувісаў хочуць адлучыць ад Міндоўга ў Наваградку, палякаў — ад музэя Міцкевіча, толькі што адбудаванага на ягонай радзіме, беларусаў — ад скарынаўскай Вільні...

Візавы рэжым — гэта чэргі ў консульствах, сваволье, зьдзек і хабарніцтва чыноўнікаў, гэта магчымасьць для тых, хто «ня жне й ня сее», нажываецца за наш кошт, ствараючы штучныя перашкоды, плодзячы новыя й новыя канцэлярыі й ведамствы. Візавы рэжым — гэта скалечаныя людзкія лёсы. Гэта немагчымасьць на працягу дзесяткаў гадоў сустрэцца брату з сястрой, сябру з сябрам, калегу з калегам. Візавы рэжым — гэта запаволеная сьмерць культурных узаемаадносін.

Зноў, як у былыя савецкія часы, міфічныя «інтарэсы дзяржавы» ставяцца вышэй інтарэсаў асобнага чалавека, зноў бюракратыя хоча вырашаць наш лёс, не пытаючыся нашай згоды.

Але цяпер насталі іншыя часы. Настала пара прыпомніць нашым уладам словы Кастуся Каліноўскага: «Не народ для ўрада, а урад для народа», нагадаць, што пры дэмакратыі менавіта «дэмас», народ, гэта значыць, мы самі павінны вызначаць, як нам жыць, куды езьдзіць, з кім сябраваць.

Міцкевіч пісаў пра Літву, што яна «як здароўе» — і толькі той даведаецца, як яе цаніць, хто яе страціў. Ні Беларусь, ні Летува не выстаяць, калі ня будзе спрадвечная адзіная Літва — Айчына. Давайце ж не дапусьцім гэтага — патрабуйма ад сваіх урадаў адмены ганебнай пастановы.

**Таварыства беларускай культуры ў Летуве.**

# Аб «эканамічным саюзе» й палітыцы ўладаў Беларусі

## ЗАЯВА СОЙМУ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

Заняпад эканомікі Беларусі, зьніжэньне ўзроўню жыцьця, рост цэнаў, недахоп тавараў і энэргарэсурсаў — гэта перш за ўсё вынік палітыкі намэклятурнага Вярхоўнага Савету й камуністычнага ўраду. Захоўваецца старая савецкая адміністрацыйная сістэма ў гаспадарцы, адсутнічае палітыка абароны нацыянальных інтарэсаў. У той жа час дзяржаўная маёмасьць ільготна пераразьмяркоўваецца ў прыватную ўласнасьць намэклятуры. Урад ня здольны да пераўтварэньняў у інтарэсах народу. Клапоцячыся толькі пра захаваньне ўлады намэклятуры, ён выступае са штучнымі нібыта эканамічнымі ініцыятывамі. Але гэтыя «ініцыятывы» толькі выяўляюць нядзольнасьць кіраўніцтва Беларусі супрацьстаяць іншаземнай імпэрскай палітыцы ды сьведчаць пра змову камуністычнае намэклятуры Расеі й Беларусі.

Чарговым захадам у інтарэсах ВПК і намэклятурнай прыватызацыі стала прапанова стварэньня «эканамічнага саюзу» Расеі, Беларусі і Ўкраіны. Пералічваюцца палітычна-эканамічныя ўмовы і чыньнікі інтэграцыі, гаворыцца пра «адзіны рубель» і «адзіны цэнтр», але не прадугледжваецца стварэньня рэальнага цывілізаванага агульнага рынку. Гэта — плян загону назад у імпэрыю пад выглядам эканамічнага ўзаемадзеяньня, захопніцкую сутнасьць якога нават не хаваюць: спачатку прапануецца «зьняцьцё бар 'ераў», а потым — поўнае эканамічнае й палітычнае паглынаньне Беларусі ўсходнім суседам ды рэанімацыя імпэрыі. Гэта — спроба пазьбегнуць адказнасьці за правал эканамічнай палітыкі.

Магчымасьць паляпшэньня эканамічнага становішча ў нашай краіне пасьля падпісаньня падобнае «дамовы» — ілюзія. Па-першае, практыка паказала, што Расея не выконвае дагаворных абавязкаў, калі гэта ў яе інтарэсах. Па-другое, «канфэдэрацыя з Расеяй» азначала б зьвядзеньне Беларусі да жабрацкага становішча расейскай правінцыі і народныя пакуты ад маскоўскіх крызысаў улады, ад непрадказальнасьці палітыкі, ад імпэрскіх амбіцыяў, што абарочваюцца крывёю, ад увозу злачыннасьці. Па-трэцяе, ніякай эканамічнай стабілізацыі н[illegible] наступіць: адбудзецца толькі ро[illegible]езпрацоўя й далейшае раскручваньне інфляцыі.

Да гэтага пляну кампрадорская намэклятура Беларусі ішла два гады. Мэтадычна разбураючы эканоміку, яна не дапусьціла рынкавых рэформаў, [illegible]арыла штучны паліўна-энэргетычн[illegible] крызыс, разваліла фінансы, не ажыцьцявіла пераходу на ўласную валюту.

Цяпер, значна пагоршыўшы становішча, нашае грамадзтва хочуць запалохаць, выклікаць паніку, паставіць на калені. «Ня трэба сувэрэнітэтаў», «Досыць незалежнасьці»,— чуваць зьверху. «У эканамічны саюз», «У калектыўную бясьпеку», «У канфэдэрацыю з Расеяй»,— вось лёзунгі, што вызначаюць мэту гэтай антыбеларускай палітыкі. Вось што рэальна стаіць за дэклярацыямі пра нібыта эканамічную інтэграцыю.

Сойм Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» ацэньвае такую палітыку як антыдзяржаўную дзейнасьць. Сойм заклікае здаровыя сілы беларускага грамадзтва выступіць супраць палітычнай ініцыятывы трох прэм 'ер-міністраў аб стварэньні «эканамічнага саюзу». Пэрспэктыва стабілізацыі эканомікі былых савецкіх рэспублік існуе: гэта — безумоўнае захаваньне палітычнай і эканамічнай незалежнасьці, гэта вызваленьне з-пад вайсковае залежнасьці ад Расеі, гэта дэмакратычныя і перш за ўсё, рынкавыя пераўтварэньні. Суседнія цэнтральнаэўрапэйскія й балтыйскія краіны засьведчылі рэальнасьць і плённасьць такога шляху.

Беларусь павінна разьвіваць дружалюбныя двухбаковыя палітычныя й эканамічныя дачыненьні з усімі сваімі суседзямі і, натуральна, з Расеяй. Але, як паказала гісторыя, як сьведчыць ход і лёгіка цяперашніх палітычных падзеяў, знаходжаньнне Беларусі ў любых «саюзах», «аб 'яднаньнях» і «садружнасьцях» з Расеяй, у тым ліку і ў СНД, небясьпечнае для нашага дзяржаўнага й нацыянальнага існаваньня.

Аднак Сойм зазначае, што галоўную небясьпеку для эканомікі й незалежнасьці Беларусі нясе ня гэтулькі імпэрская палітыка адпаведных антыдэмакратычных колаў Расеі, колькі кампрадорская арыентацыя й дзеяньні беларускай посткамуністычнай намэклятуры і яе ўладных структураў — нелегітымнага Вярхоўнага Савету і ўраду. Стварэньне эканамічных цяжкасьцяў і спэкуляцыя на іх — вось сутнасьць яе палітыкі.

# Пра грамадзянскае адзінства

## УХВАЛА СОЙ[illegible] БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

З паглыбленьнем агульнага крызысу посткамуністычнай адміністрацыйнай сістэмы актывізаваліся сілы камуністычнага імпэрскага рэваншызму, якія знаходзяцца пры ўладзе. Імі штучна ствараюцца эканамічныя цяжкасьці, [illegible] жа ідзе спэкуляцыя на гэтых ця[illegible]сьцях з мэтаю рэанімацыі імпэрыі. Рэакцыя адкрыта выступае супраць незалежнасьці і самога існаваньня беларускай дзяржавы, супраць здаровай эканомікі, супраць адвечных вартасьцяў культуры, супраць дэмакратыі. Яна стараецца любым чынам распаліць у нашай краіне грамадзкія й міжнацыянальныя канфлікты.

У гэтых абставінах Сойм БНФ асабліва падкрэсьлівае неабходнасьць каардынацыі дэмакратычных ініцыятываў усіх культурна-асьветных, культурна-нацыянальных, грамадзка-патрыятычных, палітычных, прафэсійных ды іншых арганізацыяў, таварыстваў і рухаў, якія стаяць на антыімпэрскіх і нэакамуністычных пазыцыях. Сойм выказваецца за іх узаемную інфармаванасьць, узгодненасьць дзеяньняў, узаемападтрымку, за наладжваньне двухбаковых дачыненьняў на падставах узаемнага інтарэсу. Ідэі свабоды, дэмакратыі, дзяржаўнай незалежнасьці, рынкавай эканомікі, духоўнага адраджэньня, культурна-нацыянальнага разьвіцьця (у тым ліку нацыянальна-культурнай аўтаноміі), мэта пабудовы вольнае Беларусі ў вольнай Эўропе — могуць стаць грунтам для салідарнасьці, якая перакрые дарогу камуністычнай рэакцыі ды імпэрскага рэваншызму.

**г. Менск**
**11 верасьня 1993 г.**

# Салюту не было

Правядзеньне Дня Вайсковай славы 8-га верасьня ў Менску было сустрэта істэрычнай рэакцыяй з боку прасаўмінаўскай прэсы. Дайшло да таго, што з нейкімі афіцыйнымі заявамі выступаў нават прафашыстоўскі «Славянскі сабор». Абалдзеўшы ад «незадаволенасьці расейскага пасла», «адказныя таварышчы» пасьпяшаліся абвясьціць гэта патрыятычнае сьвята «антыдзяржаўным актам» і пачалі нават пагражаць правакацыямі ці то з боку нейкіх воінаў-аўганцаў, ці то яшчэ каго. Самае сьмешнае, што гэтыя пагрозы ня былі цалкам безпадстаўныя, калі ўзгадаць, з якім апломбам у нас дагэтуль праводзяцца гэтакія адыёзныя сьвяты, як «День десантника» і «День пограничника», калі вуліцы гарадоў зранку запаўняюцца пачварнымі натоўпамі п 'яных маладзёнаў у зялёных фуражках.

Вынікам гэтага сталася тое, што сьвята Вайсковай славы праводзілася, як забаронены мітынг часоў перабудовы: вялізная колькасьць міліцыі, «сэксотаў», кадэбістаў у натоўпе. Пахаджаў і воін-аўганец Вацян, які кіраваў калісьці правядзеньнем акцыі зьбіеньня навучэнцаў мастацкага інтэрнату на Траецкім прадмесьці. Былі забаронены шэсьце, салют. З баўкона над галоўным уваходам у Опэрны тэатр мітынг здымаў на відэакамэру, праўдападобна, КДБ.

У такой абстаноўцы вельмі непераканаўча прагучалі словы Зянона Пазьняка пра тое, што за ўсю нашую гісторыю беларусаў ніколі не перамаглі ўзброеныя ворагі. Альбо, атрымліваецца, што беларусы ворагі самі сабе?

**Алесь А.**

# Ідэя фікс

Ідэялягічную накіраванасьць мэрапрыемства яскрава падкрэсьлівалі выданьні, якія распаўсюджвалі ў вэстыбюлі суровыя на выгляд хлопцы, «Мы и время», «Политика. Позиция. Прогноз», «Коммунист Асетии» (!), «Наш компас» з выявай правадыроў Маркса — Энгельса — Леніна — Сталіна, «Уперад», з артыкулам знакамітай Ніны Андрэевай «За ленинизм в теории и практике», яе ж кніга «Неподаренные принципы...», Статут ВКП(б)...

Як знарок, некалькімі паверхамі вышэй была разгорнута выстава, прысьвечаная КНДР. Тут партрэты «великого вождя трудящихся Кореи» Кім Ір Сэна й яго сына — «любимого руководителя» Кім Чэн Іра, біяграфія й шматлікія ўласныя творы дыктатара, фотавыстава. Па відэамагнітафону можна паглядзець прапагандысцкі фільм «Нібыта вярнуўся ў нядаўнюю рэчаіснасьць савецкага жыцьця».

Будзем аб 'ектыўнымі. Дакладчык Гайдукевіч трапна расставіў акцэнты, паўтарыў вядомыя ісьціны аб палітычным, эканамічным стане рэспублікі, расьце злачыннасьць, бядотным стала жыцьцё мільёнаў. Можа вітаць тэзіс аб роўнасьці розных формаў уласнасьці, барацьбы супраць яе антынародных праяваў, права прыватнай уласнасьці на зямлю, бязвыплатную таму, хто апрацоўвае яе, але з дзяржаўным кантролем, аднаўленьні маральных каштоўнасьцяў, адраджэньні гістарычнай Беларусі...

Але каму адрасаваны такія выслоўі Гайдукевіча: з 1922 па 1991 год Беларусь была сапраўды сувэрэннай (незалежнай). Папулісцкі заказ у разьліку на недасьведчанасьць слухачоў ці ня тых, хто прымае за чыстую манету усё, што гавораць лідэры блізкай па духу палітычнай плыні.

Можна прыводзіць безьліч фактаў «сувэрэннасьці» Беларусі. Напрыклад, з якіх муроў прагучаў загад схаваць праўду пра Чарнобыльскую трагедыю? Ці, можа, пісьмо з «незалежнай» Беларусі, скажам, у суседнюю Польшчу накіроўвалася прама адрасату? Толькі праз Маскву. Мо першы сакратар ЦК КПБ меў уладу над войскамі, разьмешчанымі на падуладнай яму тэрыторыі? Сьмешна казаць, дык што гэта за «сувэрэнная» й «незалежная» дзяржава, якая нават ня мела сваіх паштовых марак у адрозьненьне ад якога-небудзь мікраскапічнага Бутана? Дробязь? Не скажыце... Мо нехта ўзгадае пра самастойны візіт на вышэйшым узроўні кіраўніка Беларусі ў несацыялістычную эўрапэйскую краіну? Не інакш, як





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## Са слоў Макіявэлі

Восень прыйшла й прынесла з сабой ня толькі дрэннае надвор´е. Пайшоў дождж і ў палітычным жыцьці Беларусі. У нас на вачох бурацца мары па нашую уласную дзяржаву. Безумоўна, кожны цалкам дапускаў, што такое можа здарыцца, але вельмі балюча бачыць, як адзін за адным зьнікаюць няпэўныя інстытуты незалежнасьці й усё вяртаецца на свае колы. Бачыш, што беларусы й на гэты раз ня выкарыстоўваюць шанц, дадзены ім самой гісторыяй, і з сумам пачынаеш думаць, што належыш да нацыі, якая ня здатная нічога давесьці да лягічнага завяршэньня. Але мы ня першыя й не апошнія ў гісторыі. А таму, каб больш не спадзявацца адно на сваю інтуіцыю, паспрабуем зьвярнуцца да клясычнае літаратуры. Усебаковы яе аналіз па гэтым пытаньні — справа палітолагаў, а таму звернемся толькі да аднаго, найбольш вядомага твору — «Уладара» Міколы Макіявэлі. І хаця з часу напісаньня яго прайшло амаль пяцьсот гадоў, нават яго пагляд прымушае пераканацца, што галоўныя высновы італійскага філёзафа застаюцца актуальнымі дасёньня.

«Цяжка ўтрымаць уладу новаму ўладару...А менавіта: людзі, веруючы, што новы ўладар будзе лепшым, ахвотна паўстаюць супраць старога, але хутка пераконваюцца, што памыліліся, бо новы ўладар заўсёды аказваецца горш за старога». «Трэба ведаць, што няма справы, наладзіць якую было б больш складана, правесьці — больш небясьпечна, а посьпех якой быў бы больш сумніцельным, як замена старых парадкаў новымі. Хто б ні выступаў з падобнымі пачынаньнямі, яго чакае варожасьць тых, каму карысны старыя парадкі, і прахалодныя адносіны з боку тых, хто змагаецца за новыя». Тут і каментаваць ня трэба: асоба Шушкевіча, які ні правы, ні левы, па гэтай прычыне й аказаўся тым «уладаром»,пра якога піша Макіявэлі. Летам уладу ў яго ледзь не забралі бальшавікі, і толькі максімальным намаганьнямі апазыцыі ён захаваў свой высокі пост. Але, як было неадназоўна падкрэслена лідэрамі апазыцыі — у апошні раз, калі спадар Шушкевіч ня зьменіць сваю мягкацелую палітыку...

«... хто становіцца ўладаром волей лёсу, а не дзякуючы адвазе, таму лёгка прыдбаць уладу, але цяжка яе ўтрымаць». «У гэтых выпадках уладары цалкам залежаць ад волі й фартуны тых, каму яны абавязаны ўладаю, так бы мовіць ад двух сілаў скрайне непастаянных; утрымаць жа ўладу яны ня могуць і ня ўмеюць. Ня ўмеюць таму, што чалавеку без асаблівых дараваньняў і адвагі, які ўсё жыцьцё пражыў у сьціплым званьні, няма дзе навучыцца ўладарнасьці; ня могуць і ад таго, што ня маюць саюзьнікаў і надзейнай глебы». Шушкевіч зрабіў усё, што мог. Дыктатарам ён стаць ня можа. Ён цалкам выпусьціў ініцыятыву са сваіх рук: за сьпінай старшыні Вярхоўнага Савету Саўмін падпісаў з Расеяй пакунак пагадненьняў, якія ад нашай незалежнасьці пакідаюць (і то пакуль) толькі лялечную атрыбутыку, якую ўсё адчувальней пачынае атакаваць «другі эшэлён» — ветэраны розных войнаў і прац, розныя «славяне» й пр.

«Калі прыхільнікі старога бачаць магчымасьць да дзеяньня, яны нападаюць з жорсткасьцю, у той час як прыхільнікі новага бароняцца вяла, а таму, абапіраючыся на іх, падвяргаеш сябе небясьпецы. Нашы саўмінаўскія партайгэнсоэ гавораць пакуль што пра эканамічныя й ваенныя саюзы. Гэта разумная палітыка, бо што пасьля застанецца ад палітычнай незалежнасьці, зразумела кожнаму больш-менш адукаванаму чалавеку.

**(Заканчэньне на 6-й стр.)**

## Антыбеларуская сходка

Нядаўна ў сталіцы нашай Бацькаўшчыны прайшоў «кангрэс народа Беларусі», скліканы кангламэратам выяўна антыбеларускіх груповак. Ідэя здачы нашай дзяржаўнай незалежнасьці ўсходняму суседу ва ўсёй сваёй пачварнасьці паўстала з першых жа сказаў дакладу, прачытанага тав. Гайдукевічам. Вось толькі некаторыя «пэрлы» з ягонае прамовы: «безответственный сговор в Вискулях», «беловежская троица», «нерешенные языковые проблемы» і г. д. Карацей кажучы, стваральнікі даклада ўжо адкрыта-агрэсіўна патрабуюць «признать политической ошибкой подписание беловежских соглашений и немедленно приступить к осуществлению военного, экономического и политического союза с Россией». Згодна з іхняй лёгікай, толькі «в составе СССР Беларусь была «суверенной и независимой». Падумаць толькі, як жа мы гэтага не адчулі раней!

Між тым, «калектыўная творчасьць» у выглядзе праграмнага дакладу ня вельмі каб спадабалася народнаму дэпутату Лукашэнку, які выйшаў на трыбуну з адной-адзінай ідэяй. Па яго, Лукашэнкі, словах, «адсюль (з нашай беларускай зямлі — С. А.) павінен пайсьці рух за стварэньне адзінай вялікай дзяржавы». Яго, Лукашэнку, сёньня ўжо не задавальняе «замусоленая ідэя эканамічнага саюзу», яму трэба «палітычнае рашэньне», бо ён, аказваецца, ведае, што дзевяноста з лішкам працэнтаў беларусаў «павернуты ў бок Расеі». І, нарэшце, тлумачачы прычыны свайго візіту «со товарищи» у Маскву ён выдае гэткую «паэзію ў прозе»: «Мы пытались уяснить, нужна ли Беларусь России. Она ответила: вы нам братья».

Што ж, як той казаў, дзякуй дзядзьку за сьвярдзёлак... Толькі як бы таварыш нардэп ні пагражаў «шушкевичам и прочим пуришкевичам», як бы ні абліваў брудам апазіцыю ў парлямэнце, нашчадкам Касьцюшкі, Каліноўскага ды слуцкіх паўстанцаў ніколечкі ня страшна.

Відавочна, што тутэйшым ініцыятарам нацыянальнай здрады, якія прамаўлялі з трыбуны, нахабнай ўпэўненасьці паддавалі «ганаровыя госьці» у прэзідыуме — група нардэпаў Расейскага парлямэнту на чале з тав. Бабурыным ды кадэбоўскім гэнэралам Сьцерлігавым. [illegible]чо выступленьне Н. Машэравай чаго варта! Гэта ж ня жартачкі — самога народнага пісьменьніка І. Шамякіна абвінавачваць у тым, што ён нешта ня зусім так напісаў пра ейнага бацьку... Дый астатнім майстрам слова дасталося ад дачкі «вялікага сына беларускага народу». За тое, што не пасьпяшаліся прыбегчы на шабаш здрайцаў (акрамя, праўда, Г. Пашкова ды Г. Папова).

Лішне казаць, якімі «бурными и продолжительными» былі сустрэты сам тав. Бабурын, смуглатвары й чарнабароды каардынатар фракцыі «Расея». Паважна і ўпэўнена даводзіў ён сваім слухачам, што «раздельно ни один народ счастлив не будет», што «представительская власть — единственный гарант усилий по возрождению нашего общего отечества». І ці не таму, што ў яго раптам знайшліся родзічы ў Брэсцкай вобласьці, Брэсцкую крэпасьць ён называе іхняй (чытай — расейскай — С. А.) таксама? Каардынатар Бабурын з калегамі спадзяецца яшчэ, што беларускі народ ня сёньня, дык заўтра перадасьць сваім тутэйшым парлямэнтарыям накшталт Лукашэнкі мандаты на «воссоздание нашего братского федеративного государства».

Дальбог, «блажен, кто верует». Як, напрыклад, Г. Казлоў, выканаўчы каардынатар (Божа, колькі іх, гэтых каардынатараў!) фракцыі «Беларусь» у Вярхоўным Савеце нашай Рэспублікі. Разам са сваімі хаўрусьнікамі ён пры спрыяльных умовах будзе ініцыяваць рэфэрэндум па белавескіх пагадненьнях, па мовах і па саюзе з Расеяй...

Хопіць, зрэшты! Прыведзеныя цытаты й так дастаткова выразна люструюць «одну, но наменклатурную страсть» удзельнікаў «кангрэсу» — у саюзе з Расеяй растаптаць Беларускую незалежную дзяржаву, адначасова вытаргоўваючы ў Масквы трыццаць юдавых срэбнікаў — марэянэтачную ўладу ў намесьніцтвах Паўночна-Заходняга краю...

Спадзяюся, аднак, што нам не давядзецца паўтараць вопыт слуцкіх паўстанцаў 1920 года.

**Славамір АДАМОВІЧ,**
**г. Менск.**

у складзе «партыйна-урадавай дэлегацыі» з абавязковым стартам з Масквы. Вось і ўся вам «незалежнасьць»!

Гэтыя «адкрыцьці» прысутныя сустракалі гучнымі ладкамі, як у тэатры аднаго акцёра. Сапраўды — дзіўныя справы твае, Госпадзі!

Пакінем на сумленьні Гайдукевіча развагі пра «бясплатныя» сацыяльныя праграмы ў мінулым, яго зьняважлівую ацэнку нядаўняму першаму зьезду беларусаў сьвету, абавязковае ўвядзеньне на Беларусі руска-беларускага дзяржаўнага двухмоўя. Выдатная ілюстрацыя да прымаўкі ў пераіначаньні «Скажы, як ты адносішся да беларускай мовы, і я скажу, хто ты...»

Тэзісы даклада шырока разгарнулі дэлегаты. Чуліся найчасцей патрабаваньні скасаваць Белавежскія пагадненьні. Лідэр парляменцкай бальшасьці, старшыня дэмакратычнай групы «Беларусь» Казлоў давёў да прысутных, што адпаведная папера ўжо ляжыць у Вярхоўным Савеце.

Наогул, аднаўленьне СССР было галоўнай тэмай кангрэсу. Дэлегат Паўлоўскі з Баранавіч, рабочы, выказаўся так: найлепш прылучыць Беларусь да Расеі, як гэта было ў 1795 годзе. Лідэр вэтэранскага руху рэспублікі Андрэеў заклікаў прысутных стварыць агульную дзяржаву, тоесную былому Савецкаму Саюзу.

Старшыня саюзу афіцэраў Беларусі, адстаўны гэнэрал Іваноў з трыбуны прызнаўся:

— Афіцэры пытаюцца: калі выступаць, калі дадзіце каманду.

Ён жа вынес вэрдыкт вайскоўцам, маўляў, не абараняюць канструктыўную ўладу. Асабліва, на думку прамоўцы, у жніўні 1991 года ў Маскве праявілі слабацтва, выступілі не на тым баку.

Член расейскай дэлегацыі на канфэрэнцыі Мікалаеў, ён жа сябра аргкамітэту па падрыхтоўцы кангрэсу народаў СССР, даў высокую ацэнку беларускім калегам і іх пачынаньню. Мікалаеў заклікаў былых дэпутатаў СССР шпарчэй уключацца ў работу, бо «люди помнят и чтут СССР».

Відаць, нідзе так шчыра не віталі дэпутата Вярхоўнага Савету Расеі Бабурына, як у Менску. Ён заявіў:

— Менскі кангрэс народа Беларусі — пачатковая кропка адраджэньня СССР. Трэба прызнаць гістарычна памылковымі Белавежскія пагадненьні. Брацкая фэдэратыўная дзяржава — вось шлях.

Выдатны палітык усё ж-такі гэты Бабурын! Гаворыць тое, што ад яго хочуць пачуць. І толькі пазьней, на прэсканфэрэнцыі даў зразумець журналістам, што вярнуцца назад у ранейшы Саюз — надзвычай цяжка з пункту гледжаньня прававых аспэктаў.

... Авацыя была наладжана народнаму дэпутату Беларусі Лукашэнку. Асабліва пасьля слоў:

— Адсюль павінен пайсьці шлях да стварэньня дзяржавы, рух да Расеі, бо да яе павернуты 90 працэнтаў Беларусі. Час прымаць палітычныя рашэньні, а не эканамічныя.

Атрымаў сваю порцыю зьнішчальнай крытыкі і С. С. Шушкевіч.

Нейкі дзядок за сьпіной ажно шалеў ад захапленьня:

— Вось, вось хто павінен кіраваць Вярхоўным Саветам! Будзе парадак!

Дарэчы, ніхто адзіным словам не заганіў КПСС, ва ўсім вінаваціці міфічных дэмакратаў, бо яны «развалілі» краіну. Моцная ж была дзяржава, калі нават дапусьціць, што нехта наўмысна павыцягваў цагліны з фундаменту. І маналітнай жа была партыя, калі пасьля забароны яе дзейнасьці ніводзін яе член не выйшаў на вуліцу й ня выказаў рашучага пратэсту.

Ні адзіным словам не сказалі пра ГКЧП — сапраўдных віноўцаў зрыву падпісаньня новага саюзнага пагадненьня, і гэтаму ёсьць тлумачэньне...

Чым бліжэй да новых выбараў, тым часцей гучыць слова «народ». Ад яго імя гавораць палітыканы, хаця ад гэтага народа вельмі далёка. Вось і Кангрэс, бачыце — народа Беларусі, не менш. Хаця, на маю думку, тут былі дэлегаты менавіта ад тых 18 грамадзкіх арганізацый, што ўваходзяць у Беларускі народны рух. Атрымалася звычайнае мэрапрыемства прыхільнікаў камуністычнага й сацыялістычнага шляху развіцьця Беларусі. Але пры чым тут народ, які нікога ні на які «кангрэс» не выбіраў і даваў права гаварыць ад яго імя?

Аднак ня трэба абыякава махаць рукой на гэтую падзею. Адбылася кансалідацыя пэўных сілаў і пэўнага накірунку. Гэта небясьпечна сёньня, калі мы ў галечы, і кожны заклік кладзецца на падрыхтаваную глебу, і маленькая іскра можа нарабіць вялікай бяды. Прыхільнікі «вялікага й непарушнага» настроены рашуча, гатовыя падтрымаць любыя крокі, накіраваныя на саюз з Расеяй. Якія канкрэтна захады меў на ўвазе Гайдукевіч, можна толькі здагадвацца.

Цікава паразважаць і над лічбамі. Усяго дэлегатаў прысутнічала 1377. Па ўзросту яны размяркаваны так: 18—30 гадоў — 125, 31—40—210, 41—50—355, 50—60—345, звыш 60-ці гадоў — 328 дэлегатаў. Праўда, з арыфмэтыкай у арганізатараў ня зусім добра, бо аніяк не атрымліваецца названая лічба. Хіба мо разам з запрошанымі...

Так званы кангрэс абышоўся ў 5 млн. 550 тысяч рублёў, як паведаміў на прэсканфэрэнцыі адзін з сакратароў ПКБ В. Чыкін. Яны пераконвалі журналістаў, што збіралі грошы з міру па нітцы. Як бачым, «мір» не бяз добрых людзей.

... А мне дагэтуль уваччу стаяць матулі тых салдат, што загінулі на вайсковай службе. Жанчыны моўчкі выстраіліся ля трыбуны, трымаючы павялічаныя фотаздымкі сыноў, якіх ужо няма. Пакуль старшыня камітэту салдацкіх маці Р. Радзюк заклікала гэнэралаў навесьці парадак у арміі, я назіраў за тварамі ў прэзідыуме, тымі, хто хвілінай назад даводзіў аб неабходнасьці эканамічнай, палітычнай і ваеннай інтэграцыі з Расеяй. Калі гэта здарыцца, то будуць расьці шэрагі пакутных маці і бацькаў. Але што палітыканам боль і сьлёзы!

**В. ЗАДАЛЯ,**
**палітолаг.**

# ЭСПЭРАНТА

# Беларускі эспэранцкі рух

Гісторыя Эспэранта-руху на Беларусі даўняя й цікавая. Яшчэ ў мінулым стагоддзі таленавіты дасьледчык прыроды Уладзіслаў Дыбоўскі (1838—1910) і яго брат Бенядзікт сабралі вялікую на свой час бібліятэку на мове Эспэранта.

Шырокае распаўсюджаньне на Беларусі мова Эспэранта набыла на пачатку нашага стагоддзя. Адным з першых мову Эспэранта пачынае вывучаць І. М. Фёдараў (1904) — будучы вядомы пісьменьнік Янка Маўр. У 1909—1916 г. г. асобныя эспэрантысты зьяўляюцца ў розных гарадах Беларусі. Першае таварыства эспэрантыстаў узьнікае ў чэрвені 1917 г.— лютым 1918 г., заснавальнікамі якога былі Санько (імя яго невядома) і І. Бергін.

2-5 чэрвеня 1921 г. у Петраградзе адбыўся І зьезд эспэрантыстаў.

У кастрычніку 1923 г. у Менску пачынае дзейнічаць Аргбюро па стварэньню арганізацыі беларускіх эспэрантыстаў. У студзені 1924 года ствараецца Цэнтральнае Бюро Беларускай арганізацыі Саюза Эспэрантыстаў Савецкіх Рэспублік, старшынёй якога становіцца Я. Клыс, а сакратаром Дз. Сьняжко. Яно пачынае выпускаць «Інфармацыйныя лісты», што спрыяла хуткаму аб 'яднаньню эспэрантыстаў. Ужо на першай усебеларускай канфэрэнцыі эспэрантыстаў, якая адбылася 28-29 мая 1925 года ў Менску, прысутнічала 400 дэлегатаў і гасьцей, каторыя прадстаўлялі 2000 чалавек, якія вывучалі мову Эспэранта.

З Ганалулу й Вальпараіза, Гамбурга, Мэльбурна й Валэнсіі — ідуць дзесяткі, сотні пісьмаў і пэрыядычных выданьняў у горад Менск. Штамп «Дз. Сьняжко, Менск, паштовая скрынка 33» можна знайсьці ў любой афрыканскай і аўстралійскай вёсках, ня кажучы ўжо аб эўрапэйскіх і амэрыканскіх краінах. Дзякуючы перапісцы, наладжваюцца трывалыя кантакты, абмен навуковай і тэхнічнай інфармацыяй.

Беларускі друк удзяляе ўсё большую ўвагу міжрабсувязі: пераклады пісьмаў з-за мяжы зьмяшчаюцца ў газэтах «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Камуніст», «Беларуская вёска», «Рабочы», «Калгаснік Беларусі», «Бальшавіцкі друк», у часопісах «Узвышша», «Маладняк», «Полымя», «Беларуская работніца і сялянка». Газэта «Беларуская вёска», рэдактарам якой быў эспэрантыст Р. Шукевіч — Трэцьцякоў, мела 62 рабселькома ў 36 краінах сьвету: 40 — у 21 краіне Эўропы, 8 — у 5 краінах Азіі, 4 — у 3 краінах Афрыкі, 3 — у Аўстраліі, 6 — у краінах Амэрыкі.

Беларускія эспэрантысты актыўна прапагандавалі беларускую літаратуру: у замежныя часопісы пасылаліся артыкулы аб асобных беларускіх пісьменьніках і іх творах, на Эспэранта былі перакладзены творы Я. Коласа, Я. Купалы, А. Александровіча, П. Галавача, Ц. Гартнага, Р. Кобеца і інш. Дарэчы, у той час большасьць беларускіх пісьменьнікаў добра валодала мовай Эспэранта або падтрымлівала яе.

Плённа працуе ў гэты час Дз. Сьняжко. Ён стварае слоўнікі, перакладае п 'есу Р. Кобеца «Гута», падрыхтоўвае падручнік Эспэранта для беларусаў, піша нарысы аб Заходняй Беларусі, рыхтуе анатамічны слоўнік, выдае інфармацыйны бюлетэнь для клюбаў і гурткоў і бюлетэнь «Савета Бланкрусіо» для замежных эспэрантыстаў. У лютым 1926 года ў дзень пуску беларускай радыёстанцыі у эфір выйшла Эспэранта-радыёперадача, падрыхтаваная Дз. Сьняжко. Першы курс Эспэранта вёў па радыё Янка Маўр — 45 хвілін па панядзелках. У 30-я гады радыёперадачы выходзілі ўжо праз дзень. 542 эспэранты з 48 краін сьвету сталі пастаяннымі эспэркарамі Менскага радыё.

У 20-30 гады Эспэранта у якасьці факультатыўнага прадмета пачынае вывучацца ў 80 школах Беларусі. Якуб Колас, які, як і многія беларускія пісьменьнікі, надаваў належнае значэньне міжнарод-

BJELARUSA ESPERANTO-KRONIKO.

| | |
|---|---|
| 1900 - 1908 | - unuopaj esperantistoj:B.Diboŭski,U.Diboŭski,D.Vigodski,I.Fjodaraŭ (Janka Maŭr),Z.Jilunoviĉ (Ciŝka Hartni),E.Palsemen,M.Mnuĥin. |
| 1909-1916 | - N.Deŝkin (Vilno),H.Branzburg (Vitebsk),P.Kiruŝin (Minsk),N.Nazarenko (Mogilov),H.Mnuĥin (Reĉica). |
| julio 1917 - februaro 1918 | - la unua E-societo.Organizantoj:Sanjko(persona nomo ne estas konata) kaj Bragin I. |
| 1921 | - III-a Tutrusia Kongreso de Esperanto.B.Ŝaber - esperantisto el la urbo Vitebsk estis elektita en CK de SEU. |
| 1924 | - Fondo de Minska Esperanto-Buroo de SEU:prezidanto-Jan Klis;sekretario - Dzimitri Sneĵko. |
| 28-29-a de majo 1925 | - I-a Tutbjelarusia konferenco de Esperanto,en kiu partoprenis ĉirkaŭ 400 delegitoj kaj gastoj. |
| 1926 | - la unuaj radiaj E-dissaŭdigoj. |
| 1926 | - II-a Tutbjelarusia Esperanto-konferenco. |
| 1936 | - arestoj de E-aktivuloj:M.P.Mandrik,D.Sneĵko,J.Klis, I.Elkind. |
| 8-a de januaro 1957 | - III-a Tutbjelarusia konferenco.Fondado de Bjelarusia Esperantista Unuiĝo. |
| 1989 | - IV-a Bjelarusa E-konferenco. |
| 28-a de marto 1992 | - Fonda konferenco de AERB (Asocio Esperantista de la Ŕespubliko Bjelarusio). |
| 22-a de majo-1992 | A E R B estas registrita en Ministerio de Justico de la Respubliko Bjelorusio. |



## 72 jaroj da esperantista vivo.

Hazarde ekvidinte ĉe sia kamarado Gleb Mnuĥin la broŝureton "Deklecionа lernolibro de Esperanto" (Korr kaj Panje).Mikaelo ege ekinteresiĝis pri la enhavo.Kaj ricevinte la libreton kiel donaco li tuj komencis studi la lingvon.Post 10 tagoj de diligenta studado Mikaelo skribis la unuan leteron al germana esperantisto.Kune kun Gleb Mnuĥin li organizis la unuan junularan E-rondeton en la urbo Reĉica.

Jen kiel komenciĝis E-biografio de Miĥail Petroviĉ Mandrik en 1921.

Loĝante en Moskvo dum 30-aj jaroj Miĥail P.Mandrik aktivis en la movado ĝis en 1936 li estis senkulpe arestita.Kvin jaroj de koncentrejo ... Tri jaroj kaj duono post la pikdrato dum militkaptiteco ... "Amara vivovojo" nomiĝas la libro de liaj rememoroj espereble aperonta ĉi-jare.Post naŭ jaroj de suferoj li apenaŭ trovis familion.

Ekde 1958 M.Mandrik denove aktive partoprenas la E-movadon. Partoprenintе dek BET-kongresojn,dum kelkaj li gvidis E-kursojn por komencantoj.Kiel peranto li ricevadis centojn da ĵurnaloj el diversaj landoj kaj disvastigis ilin.M.Mandrik kompilis la lernolibron "A B C de Esperanto" kaj mallongitaĵn E-rusa kaj Rusa-esperanta vortarojn.Estis organizita multobligo de tiuj sur la fota papero kaj dissendado al diversaj urboj de Sovetio. Li verkis pli ol 20 rakontojn,tradukis novelojn de bjelarusa verkisto Janka Maŭr "Polesiaj robinzonoj","Fantomobilo de profesoro Cilakovski",gvidis E-kursojn Cseh-metode,kompilinte propran Cseh-metodan libron.

La 28-an de decembro 1958 li estis elektita en Centra Buroo de Bjelarusa Esperantista Unuiĝo,de 29-a de novembro 1959 - vicprezidanto de Unuiĝo.

En 1975 M.P.Mandrik translogiĝis en la urbon Gomel,kie organizis E-kursojn kaj poste E-klubon "Konkordo",kiu ĝis nun funkcias.

La 8-9-an de februaro 1992 okaze 90-a naskiĝtago de M.P.Mandrik bjelarusa esperantistaro organizis festan renkontiĝon en la urbo Minsk.La rave juna jubileanto ĉarmis la ĉeestantojn per ŝercoj,per deklamado de siaj versaĵoj kaj per siaj belegaj pentraĵoj.Multaj esperantistoj akiris por memoro la bjelarusajn pejzaĝojn de tiu ĉi neordinara homo.

La 28-an de marto 1992 dum Fonda konferenco de A E R B Miĥail Mandrik estis elektita kiel Honora Prezidanto.Fondado de Bjelarusa Asocio inspiris E-veteranon por plua aktiva agado. Dum 1993 Miĥail Mandrik multe faras por fortigi E-movadon en nia lando.Li,altedukita,amikema homo,instruas asocianojn akorde kunlabori.Aldonante la tutaĵn fortojn M.Mandrik flame laboras por Esperanto.Ĉi-jare li tradukas la novelon de J.Maŭr "Filo de akvo",kompilis la kurtaĵn fakaĵn vortaretojn pri flaŭro kaj faŭno,komencas kompili E-bjelarusan konversaciilbron.Liaj lertaj pentristaj manoj kreis la mirinde belan lernolibron "Esperanto en bildoj".

La jaro de sukcesplena laboro koincidas kun la samjara aprezo: dum la UK en Valencio (Hispanio) Komitato de UEA pro multjaraj meritoj nomis Miĥail Petroviĉ Mandrik Honora Membro de U E A .

Sincerajn gratulojn

kaj elkorajn bondezirojn

nia kara samideano!





най мове, бачыў сапраўдную пэрспэктыву яе разьвіцьця ў тым, што Эспэранта павінна стаць прадметам навучаньня ў школах. «Для таго... каб Эспэранта стала сродкам міжнародных зносін паміж сотнямі мільёнаў працоўных, неабходна дабіцца таго, каб гэта мова набыла сваё месца ў школах усіх народаў як абавязковы прадмет навучаньня».

Інтэрнацыянальныя сувязі на практыцы мацавалі сустрэчы эспэрантыстаў — у Беларусі гасьцілі міжрабкоры, прыяжджалі дэлегацыі й асобныя эспэрантысты з Нямеччыны, Аўстрыі, Чэхаславаччыны, Швэцыі, Англіі, Японіі.

У Заходняй Беларусі да Эспэранта-руху далучыліся беларускія паэты Максім Танк і Сяргей Новік-Пяюн. Мову Эспэранта вывучалі вязьні Лукішак. У сваёй кнізе «Лісткі календара» М. Танк згадвае: «Каля Замкавай гары сустрэў Уладака. Пазнаёміўся я з ім яшчэ у Віленскім студэнцкім гуртку Эспэрантыстаў, куды мы разам з ім хадзілі, каб стаць сапраўдным інтэрнацыяналістам».

С. Новік-Пяюн у Якуціі, куды ён быў сасланы, стварае Эспэранта-гурток «Зялёная Зорачка». Звыш 90 дзяўчат і юнакоў з пасёлка Усьць-Нера Аймяканскага раёну вывучалі Эспэранта й насілі на грудзях зялёныя зорачкі. Летась С. Новіка-Пяюна наведала адна з яго вучаніц з далёкай Якуціі. Яна прывезла ў падарунак Сяргею Міхайлавічу вялікі партрэт стваральніка мовы Эспэранта Л. Замэнгофа.

Адказны рэдактар часопіса «Летапіс таварыства беларускай школы ў Вільні Ф. Стацэвіч займаўся перакладам з беларускай, польскай і расейскай моў на Эспэранта. Яго артыкулы пра Эспэранта зьяўляліся ў беларускіх і польскіх выданьнях. Суполкі эспэрантыстаў былі ў Баранавічах, Горадні, Пінску, Берасьці. Эспэрантыстаў можна было сустрэць у многіх беларускіх вёсках.

У 20-30 гады Эспэранта — рух у Беларусі набыў шырокі размах. Але масавы характар руху быў нечакана спынены. Шматлікія арышты эспэрантыстаў у 1936 годзе надоўга адбілі ахвоту ў людзей ня толькі вучыць міжнародную мову, але нават вымаўляць слова «Эспэранта». Першымі арыштавалі актывіста Дзімітры Сьняжко, нязьменнага сакратара Беларускага аб 'яднаньня эспэрантыстаў, імя якога было вядома на ўсіх кантынэнтах. Ён першы адчуў на сабе ўвесь цяжар абвінавачваньня ў шпіёнстве й здрадзе Радзіме. Дз. Сьняжко атрымаў 3 гады зьняволеньня й быў накіраваны ў Дальлаг Хабараўскага краю. Сьледам быў арыштаваны старшыня Саюза Эспэрантыстаў Ян Клыс, які ў пачатку вайны быў расстраляны. Многія тысячы эспэрантыстаў у гады сталінізму, вайны й пасьляваеннай разрухі надоўга прыпынілі Эспэранта-рух.

8 студзеня 1957 года Устаноўчы сход эспэрантыстаў Беларусі пастанавіў узнавіць дзейнасьць Саюза Эспэрантыстаў Беларусі, які юрыдычна забаронены ня быў і працягваў існаваць.

У кастрычніку 1967 года пры Палацы Белсаўпрафа быў створаны інтэрнацыянальны клюб «Эспэранта», старшынёй якога на працягу многіх гадоў быў П. Кірушын, а ганаровым старшынёй — Янка Маўр. Пасьля сьмерці П. Кірушына клюб «Эспэранта» узначальвае М. П. Мандрык.

У сярэдзіне 80-х гадоў назіраецца спад актыўнасьці беларускіх эспэрантыстаў. У 1989 годзе склікаецца IV канфэрэнцыя беларускіх эспэрантыстаў, якая ставіць сваёй мэтай аб 'яднаць Эспэранта-клюбы ў адзіную рэспубліканскую арганізацыю. Дзякуючы намаганьням В. Мацюшкова й А. Паўлюкаўца ўдзельнікі канфэрэнцыі мелі магчымасьць азнаёміцца з першым нумарам беларускай газэты на Эспэранта. На жаль, толькі тры нумары «Беларускіх навін» зьявіліся на сьвет. А рашэньне канфэрэнцыі зарэгістраваць рэспубліканскую арганізацыю эспэрантыстаў засталося на паперы...

У сьнежні 1991 года ў час сьвяткаваньня дзён Замэнгофа у Горадні, беларускія эспэрантысты абмеркавалі становішча Эспэранта-руху на Беларусі й вырашылі склікаць новую канфэрэнцыю, якая адбылася 28 сакавіка 1992 года ў Менску. Быў прыняты статут арганізацыі, названай АЭРБ—Асацыяцыя Эспэрантыстаў Рэспублікі Беларусь. 22 мая 1993 года яна атрымала пасьведчаньне пад нумарам 333 аб рэгістрацыі у Міністэрстве Юстыцыі.

**НА ЗДЫМКАХ: дом на вул. Кірава ў Горадні, дзе жыў Л. Замэнгор, і шыльда, прысьвечаная яго памяці.**



### D Z I M I T R I J   S N E Ĵ K O.
(Biografio)

Dzimitrij Sjamjonaviĉ Sneĵko naskiĝis en 1903 en la urbo Orŝa (Vitebska gubernio) en familio de poŝt-telegrafa oficisto.Li komencis labori ekde 1918 kiel telegram-liveristo,poste kiel sortimentisto kaj kontrolisto de telegramoj en Gomela telegrafo.Ekde 1919 ĝis 1921 li estis membro de Gomela organizaĵo de anarkistoj-komunistoj.En 1922 D.Sneĵko lernis en Bjelarusia Ŝtata Universitato.Fininte medicinan fakultaton li laboris kiel altgrada sanitara inspektoro ĉe C S P S B (Centra Konsilio de Sindikatoj de Bjelarusio),asistanto ĉe katedro de laborhigieno en medicina instituto, membro de loka komitato ĉe sekciburoo de scienclaboristoj k.a.

En E-movado D.Sneĵko aktivas ekde 1918,komence en la urbo Gomel,poste en la urbo Minsk.Li estis membro de CK de S E U,de ties medicina sekcio.

D.Sneĵko fariĝis "upolnomoĉennyj" de S E U en Bjelarusio laŭ decido de CK S E U (de 19.02.23) N°37:"Apartigi S S R de Bjelarusio el Okcidenta Federacio Upolnomoĉennim (Respondeculo) pri organizado de la Federacio de S S R B enoficigi k-don Sneĵko (membro de S A T N°606").

Kune kun Jan Klis D.Sneĵko estis fondinto kaj gvidanto de la Bjelarusio filio de S E U kaj sub lia gvidado la filio dum dek jaroj (1923-1933) fariĝis unu el la plej multnombraj kaj dinamikaj E-organizaĵoj.Bjelarusia S E U - filio,unua en Sovetio,komencis grandskale uzi Esperanton por celoj I P K (Internacia Proletara Korespondado) atinginte en tiu kampo grandajn rezultojn.Miloj da leteroj estis dissenditaj kaj publikitaj,tralegitaj per radio dum kunsidoj en fabrikoj kaj uzinoj."Leterojn kun stampilo - "Dim.Sneĵko,Minsk,poŝtkesto 33" - oni povis trovi en ĉiuj landoj,sur ĉiuj kontinentoj.Ĉiu esperantisto de la terglobo bonege scias,kiu estas Dzimitrij Sneĵko.Ekzistas neniu E-organizaĵo en la tuta mondo (krom neŭtralistaj kaj ĝenerale kontraŭrevoluciaj) en kiuj li ne laborus" ("Meĵdunarodnij Jazik" 1934,N°7).

D.Sneĵko estis konstanta kunlaboranto de la revuoj"Sur posteno" kaj "Meĵdunarodnij Jazik",aperigadis P E K - bultenon "Soveta Blankrusio".D.Sneĵko multe laboris por E-radiodisaŭdigoj:jam en 1926 estis fondita radiosekcio ĉe Bjelarusia filio;la elsendoj okazis 4-foje monate,ĉiusemajne lunde je la 20-a horo dum 45 minutoj.

Estinte unu el organizantoj de Bjelarusa fako de I A R E V (Internacia Asocio de Revoluciaj Verkistoj) D.Sneĵko preparis por eldono Esperanto-Bjelarusan kaj Bjelarusa-Esperantan vortarojn, lernolibron de Esperanto por blankrusoj,anatomian vortaron.Li havis multajn planojn."Oni havas kion fari kaj necesas multe fari.Nun mi verkas originalan romaneton "33 dokumentoj",en kiu mi volas montri refandprocezon de homo en aktivan simplan (senrangan) soldaton de Kominterno - konstruisto de socialista senklasa socio kaj rolon de Esperanto en la procezo.Mi verkas la artikolon pri proletara E-literaturo kaj pri taskoj de I A R E V . Ankaŭ mi finas tradukon en Esperanton kelkajn artikolojn de V.Lenin por la 16-voluma artikolaro,post kio mi aliĝos al tradukistbrigadoj por traduko en Esperanton de "Antologio de bjelarusaj proletaj verkistoj".(Meĵdunarodnij Jazik,1934).

Tamen ... La 5-an de februaro 1936 D.Sneĵko estis arestita kaj la 7-an de majo 1936,laŭ art,72 de Krimkodo B S S R li estis kondamnita al 3 jaroj de mallibereco (art.72 "Kontraŭrevolucia propagando kaj agitado".) La esenco de akuzo,kiel ĝi estis formulita en la ordono pri persekuto kaj en la verdikto de tribunalo,konsistis je tio,ke ili uzis Esperanton,unu el la rimedoj de internacia proleta korespondado,kiel kanalon por akiri de kontraŭrevolucia,trockista,faŝista kaj burĝa literaturo,disvastigis ĝin inter esperantistoj.Rezulte D.Sneĵko trafis en Dallagerj de Habarovska regiono (Malliberejo en Fora Oriento).

Dzimitrij Sneĵko estis liberigita la 5-an de februaro 1939. La plua lia sorto ne estas esplorita.Fakte li ne rajtis reveni al patrujo kaj restis en Rusio.Fine de la 40-aj jaroj li korespondis kun membro de CK B E U (Bjelarusia Esperantista Unuiĝo) - Pavel Kirjuŝin.La medicinaj broŝuroj,kiujn D.Sneĵko tiutempe sendis al P.Kirjuŝin estis eldonitaj en la urboj Molotov (Permj) kaj Tula en 1946-1948.La aŭtoro de la artikoloj pri sanitaria edukado de loĝantaro de tiuj regionoj estis li mem - D.Sneĵko - vicadministranto de regiona fako pri sanprotekto.

D.Sneĵko forpasis en 1959 en la urala urbo Permj.

Laŭ decido de Prezidio de Supera Juĝistaro de B S S R de la 20-a de marto 1990,kriminala proceso kontraŭ Sneĵko D.S. estis finita pro absoluta manko de pruvoj de ilia krimo.

**Esprimoj de bjelarusaj verkistoj pri Esperanto.**

J A N K A   K U P A L A

Mi opinias,ke Esperanto estas utila lingvo,kiu helpos kontaktojn inter laboristoj de la tuta mondo.

J A K U B   K O L A S

Lingvon Esperanto necesas subteni kiel lingvon belsonan,simplan kaj facilan,kiel internacian lingvon por praktika uzado de multmilionaj laborantaj amasoj de ĉiuj nacioj por interkompreno.

Por tiu lingvo akiru konvenan staton kaj fariĝu vera rimedo de internaciaj ko[illegible]aktoj inter kelkcentmilionaj laboristoj,necesas atingi,ke ĝi [illegible]rovu sian lokon en lernejoj de ĉiuj popoloj kiel nepra lernoobjekto.Sen tio ĝi verŝajne ne povos havi tian gravecon,kiun ĝi miritas.

J A N K A   M[illegible]R

Ĉiu aliĝus al esperantismo,se scius,kio ĝi estas.

